# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна - навуковы, пэдагогічны і літаратурна - грамадзкі штомесячнік





**Вядомы па ўсей Цэнтральнай і Усходняй Беларусі найлепшы беларускі хор Ул. Тэрраўскага,** з'арганізаваны 16 год назад, у 1917 годзе ў Менску. У цэнтры сядзіць сам гарманізатар беларускіх народных песьняў і кіраўнік хору гр. Ул. Тэрраўскі.

**№ 3 (20)** **Рыга, сакавік, 1933 году** **№ 3 (20)**

## Зьмест № 3 (20):



---

# Хроніка беларускага жыцьця у Латвії.

**Дзіцячая раніца у 1-й Рыскай беларускай школе** была арганізавана 26 лютага. У праграму уваходзілі: балетныя танцы — „Klappdanc“ „Кітайскі танец“ і „Čabagor“, пастаўленыя вучыцелькай А. Крэйц, а таксама дэклямацыя вучняў, агульныя гульні і скокі. Раніца была зачыненая, прысутнічалі толькі вучні, бацькі і настаўнікі. Дзеці мелі магчымасьць вольна паскакаць і пагуляць. Бацькі таксама з прыемнасьцьцю адведалі вечарыну. Трэба пашым школам часьцей рабіць закрытыя вучнёўскія вечарыны, бо на вялікіх, адчыненых для усіх старонніх людзей, вечарынах нашым вучням і іхнім бацьком павесяліцца ніколі няма магчымасьці.

**Лекцыя праф. М. Біржышко у Рызе** прызначана у нядзелю 2 красавіка у памешканьні літоўскае гімназіі на Дэрпатоўскай вуліцы. Лекцыю ладзіць беларускае культурна-асьветнае Т-ва „Беларуская Хата“.

**Падручнікі, надрукаваныя за-межамі Латвії, будзе забаронена ужываць** ва усіх латвійскіх школах, пачынаючы з 1 жніўня 1934 году. Гэтая забарона вельмі балюча адаб'ецца на беларускіх школах у Латвії, бо мы тутака надрукаваць усіх патрэбных падручнікаў не змаглі і карысталіся падручнікамі, надрукаванымі у Вільні, у Коўне, у Бэрліне ды Менску. Зараз Радзе Беларускага Аддзелу трэба паклапаціцца аб надрукаваньні беларускіх падручнікаў у Латвії.

**Агульны Сход сяброў Беларускага Цэнтральнага Пазычкова - Ашчаднага Т-ва у Рызе** адбыўся 4 сакавіка у памешканьні Т-ва на бульвары Калпака 2 кв. 18. У парадку дня было: 1) выбары Прэзыдыуму сходу, 2) справаздача за 1932 год Праўленьня і Рады Т-ва ды паведамленьне Рэвізыйнае Камісії, 3) буджэт на 1933 год, 4) выбары новых сяброў у Праўленьне і Раду, 5) арганізацыя пахавальнага фонду і статут яго, 6) бягучыя справы. Падрабязная справаздача будзе выдрукавана па атрыманьні афіцыйных данных ад Праўленьня Т-ва.

**Агульны Сход сяброў Дзьвінскага Беларускага Пазычкова-Ашчаднага Т-ва** адбыўся 21-га сакавіка, у памешканьні Дзьвінскае беларускае гімназіі на Варшаўскай вуліцы 16. У навестцы сходу вызначаны былі гэткія пытаньні: 1) выбары Прэзыдыуму сходу, 2) даклад Праўленьня і Рэвізыйнае Камісії а працы за 1932 год, 3) падзел прыбытку, 4) буджэт на 1933 год, 5) выбары Рады Праўленьня і Рэвізыйнае Камісії, 6) бягучыя справы. Падрабязная справаздача аб сходзе і аб агульны стане Т-ва будзе выдрукава у наступным нумары.

**Агульны сход „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвії“**, згодна пастановы Цэнтральнага Праўленьня, адбудзецца у Рызе 28 траўня а 11 гадз. зраньня, у памешканьні 2-й Рыскай беларускай пачатковай школы па Сімонаўскай вул. № 14-16. Парадак дня гэткі: 1. Даклад Праўленьня аб працы у 1932 годзе. 2 Даклад Рэвізыйнае Камісії. 3. Выбары новага Праўленьня. 4. Выбары Рэвізыйнай Камісії. 5. Буджэт і плян працы на 1933 год. 6. Бягучыя справы.

**Цэнтральнае Праўленьне.**

**Усе сьвядомыя і шчырыя грамадзяне-беларусы павінны абавязкова падтрымоўваць свой адзіны у Балтыцы беларускі штомесячнік! Падпіску пасылаць па адрасу: Latvijā, Rīgā, Elija ielā 20, dz. 25. „Bielaruskaja Skola u Latviji“.**

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна-навуковы, пэдагогічны і літаратурна-грамадзкі штомесячнік

**Падпісная плата**
ў Латвіі, Літве, Эсьціі і Зах. Беларусі: за год—5 лат., за паўгода—3 л. 50 с., асобны нумар — 70 сант. У іншых краінах: за год—2 ам. дал. Падпісную плату пасылаць на бягучы рахунак часопіса: „Bielaruskaja Škola u Latviji", Rīgā, pastā, tek. reķins №10909.

**Адрас Рэдакцыі і Канторы:** Latvijā, Rīgā, Elija ielā 20, dz. 25 „Bielaruskaja Škola u Latviji".
**Тэлефон 2-9-9-2-2.**
**Паштовы адрас:** Latvijā, Rīgā, pastkaste № 1362.
Рэдактар К. Езавітаў і Рэдакцыйная Калегія па справах часопісу прыймаюць па аўторках ад 15 да 16 гадзін.

Надсылаемыя рукапісы павінны быць чытэльна напісаны, або надрук. на піш. машынцы (**пісаць і друкаваць толькі на адным баку**). Рукапісы назад не зьвяртаюцца. Аплачваць аўтарскія ганарары Рэдакцыя пакуль што ня мае магчымасьці.

№ 3 (20). | Рыга, сакавік 1933 году. | Год VIII.


## 15-я угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

У ноч з 24-га на 25-е сакавіка 1918 году, у Менску, пасьля даўгіх абгавораў і спрэчак, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесьціла незалежнасьць Беларусі ад Расеі і выдала з гэтага поваду „Другую Устаўную Грамату" да жыхарства Беларусі.

Памеры і характар нашага часопісу не даюць нам магчымасьці падрабязьней спыніцца на гісторыі гэтага акту, а таму мы абмяжуемся толькі галоўнымі фактамі і этапамі, падрыхтаваўшымі гэты гістарычны акт.

У № 1 (18) нашага штомесячніка мы ўжо адзначалі што Усебеларускі Кангрэс, які адбыўся 5—18 сьнежня 1917 году (па старому стылю), абвесьціў Беларусь Народнаю Рэспублікаю і абраў Раду Конгрэсу і яе Выканаўчы Камітэт, якім даручыў скласьці першы урад Беларусі і ўвайсьці ў перагаворы з Расійскім і Украінскім урадамі аб фармальным замацаваньні фэдэрацыі з гэтымі Рэспублікамі. Выконваючы даручэньне Конгрэсу, Выканаўчы Камітэт Усебеларускага Конгрэсу ў канцы сьнежня месяца 1917 году зьвярнуўся да Масквы і Кіева з прапазыцыямі аб канстытуціраваньні Фэдэрацыі. Але і Масква і Кіеў, кожды з розных прычын, прапазыцыю гэтую адкінулі: Масква жадала і надалей панаваць над Беларусьсю, як сваей каляніяй, а Украіна, якая толькі-што абвесьціла сваю незалежнасьць ад Масквы, не жадала сябе зьвязваць ніякімі новымі дзяржаўнымі зьвязямі з Маскоўшчынай. Такім чынам працягнутая Беларусьсю рука асталася ў паветры.

Беларускае грамадзтва, лятуцеўшае ў той час аб Усеславянскай Фэдэрацыі і глядзеўшае на фэдэрацыю з Маскоўшчынай і Украінай, як на першы крок у гэтым кірунку — было дужа расчаравана гэткім адносіньнем да прапазыцый Усебеларускага Конгрэсу і змушана было зрабіць належныя вывады. І вось ужо 31 студзеня 1917 году (па стараму стылю*) на навагоднім банкеце, які адбыўся ў Менску ў Клюбе „Беларуская Хатка", сябрамі Прэзыдыуму Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады было рашуча пастаўлена пы-

* Новы стыль на Беларусі ўведзены быў з 1-га лютага 1918 году.

таньне аб абвешчаньні незалежнасьці Беларусі. Пасьля адпаведных прамоў, быў пушчаны ліст з кароткай дэкларацыяй: „Хай жыве Незалежная Беларуская Народная Рэспубліка!“ Ліст гэты быў падпісаны ўсімі прысутнымі на банкеце беларускімі дзеячамі.

Гэты банкет і праведзенае на ім, шляхам падпісаньня ліста, папярэдняе галасаваньне — канчаткова вырашылі пытаньне абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі незалежнаю. Асталася толькі належным і аўтарытэтным чынам аформіць гэтую важную справу.

Разглядаючы падзеі 1917 і 1918 гадоў на Беларусі, трэба ўвесь час памятаць, што праз усю Беларусь праходзіў нямецка-расейскі фронт, які адрэзаў Заходнюю Беларусь ад Цэнтральнай і Усходняй Беларусі, ды што ўся Цэнтральная Беларусь была набіта расейскімі вайскоўцамі і рознымі расейскімі грамадзкімі арганізацыямі, абслугоўваўшымі армію. У беларускіх гарадох, асабліва ў Менску, дзе стаяў штаб Заходняга фронту, расейская прыезжая інтэлігэнцыя ўваходзіла ў значнай лічбе ў гарадзкія і нават земскія самаўрады, дзе мела вялікі ўплыў і, у хаўрусе з жыдоўскімі дамаўласьнікамі ды польскімі і расейскімі абшарнікамі, усімі спосабамі перашкаджала працы Выканаўчага Камітэту Усебеларускага Конгрэсу.

Прайшло некалькі тыдняў пакуль Выканаўчы Камітэт і Рада Усебеларускага Конгрэсу настолькі ўмацаваліся, што здолелі, з дапамогай Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады, узяць уладу ў Менску ў свае рукі і стварыць першы Урад Беларусі — **Беларускі Народны Сакратарыят**. Здарылася гэта 19 лютага 1918 году, калі Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада, скарыстаўшы абставіны і абапёршыся на беларускіх вайскоўцаў і сьвядомую моладзь у Менску, захапіла горад і яго ваколіцы ў свае рукі і стварыла ў Менску Беларускую Камэндатуру і 1-шы беларускі пяхотны полк*).

Расейская армія, у якой панаваў тады поўны развал, адступіла на Усход, за Воршу, на лінію Дзьвіна—Дняпро, і беларусам не перашкаджала. Затое на маладую беларускую ўладу адразу-ж зрабілі напад польскія абшарнікі з Паўднёвае Меншчыны, якія мелі ў районе Бабруйску сканцэнтраваны польскі корпус гэнэрала Даўбор-Мусьніцкага. Частка гэтага корпусу адразу была кінута на Менск з паўднёвага боку, каб зьліквідаваць беларускую ўладу і захапіць Цэнтральную Беларусь і беларускую сталіцу ў польскія рукі. Аднак гэтыя захватніцкія пляны палякаў на той раз не удаліся, бо хутка ў справу ўмяшаліся немцы, якія павялі наступ на Менск з захаду і акупавалі яго.

Нямецкая акупацыйная армія спыніла беларуска - польскія сутычкі ў дужа арыгінальны спосаб: яна абязброіла як палякаў, так і беларусаў; пры гэтым польскія вайсковыя часткі былі перавезены з Беларусі ў Польшчу, а беларускія вайскоўцы былі інтэрнаваны. Зьліквідаваўшы польскую пагрозу, акупацыйная армія не спыніла працы Народнага Сакратарыяту Беларускай Народнай Рэспублікі, які астаўся ў Менску і, ня гледзячы на розныя абмяжаваньні і перашкоды з боку акупантаў, лічыў сябе і ўважаўся ўсім жыхарствам за адзіную законную ўладу на Беларусі.

*) Падзеі 19-га і 20-га лютага 1918 году падрабязна апісаны у артыкуле К. Езавітава — „Освобожденіе Минска“, у часопісу „Варта“, № 1 за 1918 год, Менск, 36—38 балонкі.

Пасьля стварэньня Беларускага Народнага Сакратарыяту і пераходу ўлады ў рукі беларусаў, расейскія і жыдоўскія партыйныя арганізацыі, а таксама Менскі гарадзкі і земскі самаўрады зрабіліся больш лагоднымі і выказаліся за поўнае супрацаўніцтва з Радай Усебеларускага Конгрэсу і яе арганізацыямі, Выканаўчым Камітэтам і Беларускім Народным Сакратарыятам. У выніку гэтае беларускае перамогі аказалася магчымым сканструіраваць Беларускі Прадпарлямэнт, які аб'яднаў у сябе: 1) Раду і Выканаўчы Камітэт Усебеларускага Конгрэсу, 2) Беларускую Цантральную Вайсковую Раду, 3) прадстаўнікоў ад беларускіх гарадзкіх і земскіх самаўрадаў і 4) прадстаўнікоў ад усіх палітычных партый на Беларусі. Створаны на гэткім шырокім прадстаўніцтве Беларускі Прадпарлямэнт быў названы: **Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.** У ей былі рэпрэзэнтаваны ўсе краёвыя нацыянальнасьці, самаўрады, кірункі і партыі, за выключэньнем невялічкае групы беларускіх хрысьцігаў і абшарнікаў, якія згрупаваны былі каля беларускага абшарніка Рамана Скірмунта і ўскладалі надзею на тое, што сваімі даносамі на Раду даб'юцца ад акупаваўшых Менск немцаў разгону Рады. Немцы, аднак, добра бачылі, што Рада што-дзень болей набывае ў Краю папулярнасьці і сымпатыяў, а таму разагнаць яе не адважваліся, хаця-ж у Радзе і была непажаданая ім соцыялістычная большасьць.

Хаця беларускія партыі і арганізацыі мелі ў Радзе большасьць, аднак з актам абвешчаньня незалежнасьці Беларусі яны не сьпяшаліся, бо хацелі каб гэты акт быў вынесены як мага большаю лічбаю галасоў. З гэтай мэтай вяліся адпаведныя перагаворы з партыямі іншых нацыянальнасьцяй у Радзе ды разам з тым чакаліся „беларускія рэзэрвы“ з Заходняй Беларусі, якой таксама былі прадугледжаны 10 мандатаў у Радзе Б. Н. Р.

24 сакавіка зьявіліся ў Раду прадстаўнікі Віленскай Беларускай Рады, лічба беларускіх галасоў павялічылася, апрача таго атрымана была згода на абвешчаньне незалежнасьці Беларусі ад некаторых расейскіх і жыдоўскіх груповак. І пытаньне аб прыняцьці дэклярацыі з абвешчаньнем незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі было пастаўлена ў парадак дня. Пасьля доўгіх спрэчак з расейскімі соцыялістамі - рэвалюцыянэрамі, польскімі соцыялістамі і некаторымі жыдоўскімі групамі, пад самую раніцу быў зроблены перарыў, а на світаньні падаўляючай большасьцьцю галасоў была прынята „Другая Устаўная Грамата“ з абвешчаньнем незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Калі абвешчаны былі вынікі галасаваньня, у зале запанаваў урачыста-узьняты настрой, беларускія соцыялісты засьпявалі рэвалюцыйны беларускі гімн: „Ад веку мы спалі і нас разбудзілі!...“ Уся Рада ўстала і дружна падхапіла гэтую хвілюючую, магутную мэлёдыю з яе захопліваючымі, як прысяга, словамі.

У гэты момант праз вокны ўдарылі першыя залатыя праменьні наступаючага 25-га сакавіка і ўся заля афарбавалася ў нейкі містычна-ружовы колер. Захопленыя агульным уздоймам, нават прадстаўнікі расейскіх с.-р. і жыды, пасьля адсьпяванага гімну, зрабілі ўрачыстыя заявы, у якіх падкрэсьлілі, што, лічучыся з стаўшымся фактам, яны таксама ўсімі сіламі будуць падтрымоўваць Беларускую Дзяржаву.

**Кангрэсавец.**

## Беларускі пратэст у Лігу Нацый.

Грам. Базыль Захарка, які зьяўляецца заступнікам нябожчыка старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, Пётры Крачэўскага, падаў ад імя беларускае праскае эміграцыі і прэзыдыуму Рады пратэст-мэморандум у Лігу Нацый з поваду польскіх зьдзекаў у Заходняй Беларусі. Мэморандум будзе разглядацца ў нейкай камісіі. Мала карысьці для беларускага народу будзе ад гэтага разгляду, бо Ліга Нацый заўсёды стаіць на баку больш мацнейшага, а таму значаньне гэтага мэморандуму галоўным чынам у тым, што ён зьяўляецца чарговым актам пратэсту беларускае старaны перад Эўропай і канстатаваньнем і рэгістрацыяй на міжнародным форуме тых нялюдзкіх абставін, у якія трапіў беларускі народ пасьля Версальскага трактату.

Факт падачы мэморандуму адзначаны прыхільнай да беларусаў прэсай, але адзначаны слаба. Вінавата ў гэтым ня толькі ўсясьветная прэса, але і самі беларусы, якія слаба яе абслугоўваюць і не разьвіваюць патрэбнае актыўнасьці, каб зьвярнуць на сябе ўвагу ўсяго сьвету.

**Адр-ц.**

## Канфэрэнцыя беларускіх вучыцялёў Дзьвіншчыны.

26-га лютага у памешканьні Дзьвінскае Дзяржаўнае Беларускае гімназіі адбылася Канфэрэнцыя беларускага вучыцельства Дзьвінскага павету і г. Дзьвінску, скліканая кіраўніком Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы. Прысутны былі 15 вучыцялёў.

У парадку дзённым было: 1) даклад прадстаўніка у Радзе Беларускага Аддзелу гр. Ул. Раткіна; 2) выбары кандыдатаў па прадстаўнікоў ад вучыцельства у Раду Аддзелу і 3) бягучыя справы. Старшынства на Канфэрэнцыі узяў на сябе кіраўнік Беларускага Аддзелу, гр. Ул. Пігулеўскі, а сакратаром быў абраны вучыцель Паўла Пырсікаў.

Пасьля дакладу прадстаўніка у Радзе Аддзелу гр. Ул. Раткіна аб працы Рады за мінулы час, прыступілі да выбараў кандыдатаў на сьпісак. Выстаўлены былі: гр. Ул. Раткін, А. Барткевіч, С. Маціеўскі, Э. Вайвадзіш і Ул. Відаўскі. Патаемным галасаваньнем абранымі у кандыдаты ад вучыцельства Дзьвіншчыны аказаліся: Ул. Раткін, А. Барткевіч і Э. Вайвадзіш.

У бягучых справах былі зроблены некаторымі вучыцялямі даклады з мейсц. Асабліва цікавым быў даклад вучыцелькі Л. Александровіч, у якім яна адзначыла аб рэвізыі па школам інспэктара пачаковых школ гр. Кунцана. Гэты інспэктар, прыехаўшы на рэвізыю у Лупандаўскую беларускую пачатковую школу, склікаў сход бацькоў гэтае школы і на сходзе выступіў з дакладам аб школах наагул і аб асаблівай карысьці латыскіх школ, а пасьля дакладу запрапанаваў бацькам; калі яны жадаюць латыскае школы, каб выказаліся, дык ён ім гэтую школу створыць. Бацькі Лупандаўскае школы ніколі і нідзе не падымалі пытаньня аб пературарэньні школы у школу латыскую, ці школу агульнага дэпартамэнту, бо лічуць сябе беларусамі і вельмі задаволены сваёй роднай школай, а таму усе маўчалі. Пан інспэктар, бачучы, што бацькі маўчаць, загадаў: „Хто жадае беларускую школу—хай выйдзе з памешканьня, а хто жадае латыскую—хай астаецца!“ Усе бацькі, акрамя аднаго, выйшлі з памешканьня; бо усе жадаюць, каб была беларуская школа і усе былі вельмі зьдзіўлены навошта інспэктар усё гэта рабіў. Бачучы, што грунту дзеля яго працы няма, інспэктар паехаў ня солана хлябаўшы. Трэба цешыцца стойкасьці сялян і адзначыць, што так усе беларусы павінны трымацца свае роднае школы, як лупандаўцы, каб ніхто ня мог над намі і нашай школай надсьмяхацца. Цікава, ці уваходзіць у абавязкі пана інспэктара, і ці ён мае права, раз'яжджаць па школам і агітаваць аб пературарэньні беларускіх пачатковых школ у латыскія?

**Дзьвінчук.**

**Грамадзяне! надсылайце безадкладна падпіску на штомесячнік „Беларуская Школа ў Латвіі“ і грамадзкія складкі на падтрымку яго!**

## Агульны Сход Дзьвінскага Аддзелу „Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі“.

1 сакавіка 1933 году у памешканьні Дзьвінскае беларускае пачатковае школы адбыўся Агульны Сход Дзьвінскага Аддзелу „Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі“ дзеля заслуханьня справаздачы Праўленьня Дзьвінскага Аддзелу Т-ва і выбараў новага Праўленьня. Старшынёй сходу аднагалосна быў абраны гр. К. Александровіч, сэкратаром г. П. Пырсікаў.

Пасьля дакладаў старшыні Праўленьня гр. А. Барткевіча і скарбніка гр. С. Мацісўскага, было прыступлена да выбараў новага Праўленьня і Рэвізыйнае Камісіі. У Праўленьне аказаліся абранымі: А. Барткевіч, С. Мацісўскі і М. Касьпяровіч. У Рэвізыйную Камісію абраны: К. Александровіч, С. Саўкант і П. Пырсікаў.

У бягучых справах быў заслуханы шэраг дакладаў аб агульным стане асьветнае працы сярод беларускае нацыянальнае меньшасьці у Латвіі. Новаму Праўленьню даручана скласьць плян працы Аддзелу і як мага хутчэй склікаць новы Агульны Сход, які разгледзіць і зацьвердзіць гэты плян.

З жалем прыняў сход да ведама аб пераездзе у Рыгу гр. С. Сахарава і адзначыў, што з ад'ездам з Дзьвінску гр. С. Сахарава нашая культурна-асьветная справа згубіла у Дзьвінску шчырага працаўніка, які, як адзін з старэйшых працаўнікоў беларускага руху у Латвіі, шмат працаваў і варушыў справу.

**Дземенскі.**

## Праца „Аб'яднаньня вучыцялёў беларускае мовы“ у 1932-33 навуч. годзе.

Прэзыдыум „Працоўнага Аб'яднаньня беларускіх вучыцялёў-выкладчыкаў беларускае мовы“ абраны агульным сходам „Аб'яднаньня“ у гэткім складзе: старшыня — К. Езавітаў, сакратар — Я. Клагіш і сябра прэзыдыуму — Я. Кудраўцаў.

Згодна прынятаму агульным сходам пляну на 1932-33 навучальны год, агульныя сходы вучыцялёў як тых, што ужо запісаліся у „Працоўнае Аб'яднаньне“, гэтак і усіх тых беларускіх вучыцялёў гораду Рыгі, якія цікавяцца лепшаю настаноўкаю выкладаньня беларускае мовы у школе, намечаны былі для заслуханьня дакладаў на гэткія дні:

12 лютага, аб 11 гадзіне дня, у памешканьні 1-е беларускае школы на В. Маскоўскай 173, для заслуханьня дакладу К. Езавітава — „Праграмы і мэты выкладаньня роднае мовы у аснаўных школах“. (Справаздача аб гэтым дакладзе будзе дадзена асобна).

12 сакавіка, аб 11 гадзіне у тым-жа памешканьні, даклад Г. Нікіфароўскай — „Беларуская мова у дашкольных клясах 2-й беларускай аснаўной школы у Рызе у 1932-33 навуч. годзе“.

2 красавіка, у той-жа час і тамака-ж, даклад Н. Юзэфовіч — „Беларуская мова у I клясе 2-й Рыскай беларускай школы у 1932-33 нав. годзе“.

30 красавіка, у той-жа часі у тым-жа памешканьні, даклады: К. Езавітава — „Беларуская мова у II клясе 1-е Рыскае беларускае школы у 1932-33 нав. годзе“, і Я. Кудраўцава — „Беларуская мова у III і IV клясах 2-й Рыскай беларускай школы у 1932-33 нав. годзе“.

7 траўня, тамака-ж аб 11 гадзіне, даклады: Я. Камаржынскага — „Беларуская мова у V клясе 1-е Рыскае беларускае школы у 1932-33 нав. годзе“, К. Езавітава — „Беларуская мова у VI клясе 1-е Рыскае беларускае школы у 1932-33 нав. годзе“ і К. Езавітава — „Значаньне вучнёўскіх рэфэратаў у справе навучаньня мове, разважаньню і выказваньню думак“.

Паказальных лекцый паасобных калегаў для цэлых груп настаўнікаў у гэтым навучальным годзе не прадбачаецца, але паасобныя калегі, па узаемнай умове і са згоды кіраўнікоў школ, могуць ужо зара' узаемна адведываць лекцыі адзін у аднаго.

**Прэзыдыум «Аб'яднаньня вучыцялёў беларускае мовы».**

**Зьмітра Даўгяла**
Член-супрацоўнік Інстытуту Беларускае Культуры.

# Літоўская Мэтрыка і яе каштоўнасьць для вывучэньня мінуўшчыны Беларусі.

## III. Склад Літоўскае Мэтрыкі.

Архіў Мэтрыкі Літоўскай па ліку кніг, якія ў ім маюцца ў цяперашні час, ня вельмі вялікі. Кніг усяго будзе крыху больш за паў-тысячы нумараў. Паасобных дакумантаў і лістоў (апрача кніг) — каля сотні.

Усе гэтыя кнігі паводле зьместу могуць быць падзелены на катэгоры: а) кнігі запісаў, б) кнігі судовых спраў, в) кнігі спраў публічных і г) кнігі перапісаў.

Трэба крыху застанавіцца на зьмесьце вызначаных катэгорый кніг Мэтрыкі Літоўскай, каб бліжэй азнаёміцца з яе складам і адсюль наагул, уразумець яе навуковую вартасьць для гісторы Беларусі.

**У кнігах запісаў** знаходзяцца прывілеі местам, мястэчкам, вёскам; прывілеі на майдэборскае права, на кірмашы, гандаль; пастановы наконт новых паборaў; справы цэхаў; граматы на ўрады; лісты на маёнткі князём, паном, шляхце і ўсім тым, наагул, каму даваў ці зацьвярджаў даніны гаспадар (князь) і ў канцы — бягучыя справы князёўскае канцэлярыі. Гэтыя кнігі ахопліваюць прыблізна $3^1/_4$ сталецьці (з канца XV да канца XVIII сталецьця). Вялікая вартасьць кніг гэтага аддзелу відавочна.

Другі, таксама вельмі каштоўны для гісторы Беларусі аддзел — **кнігі спраў судовых**. У гэтых кнігах знаходзяцца дэкрэты (пастановы) вышэйшых судоў, якія існавалі ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве: а) суд самога вялікага князя, б) суд маршалкоўскі (з XVI ст.), які разьяжджаў па дзяржаве, в) суд паноў з князёўскае рады, г) задворна-асэсарскі суд (пачаў існаваць з 16 сакавіка 1623 г.), д) рэляцыйны суд самога князя, рэфэрандарскі суд (з пачатку XVIII ст.), е) суды конфэдэрацкія (з часоў безкаралеўя), ж) суд па апэляцыях на суды майдэборскія. Паміж названых галін суду вышэйшага, больш за ўсё захавалася кніг спраў судовых задворнага асэсарскага суду. Гэтыя кнігі чатырох відаў: рэестры канцлера, рэестры пісарскія, пратаколы паседжаньняў і дэкрэты. Да гэтага аддзелу павінны быць далучаны справы „паточныя“ з уселякімі забясьпекамі і „жалезныя“, універсалы, прызначэньні і т. д.

Для распрацоўкі і дасьледваньня праўных адносін, а таксама характару судовых установ былой Беларуска-Літоўскай дзяржавы, дзеля вывучэньня быту і жыцьця беларускага народу, усе гэтыя кнігі зьяўляліся матар'ялам выключнага крынічнага значэньня, за часы з пачатку XVI сталецьця да апошняга падзелу Польска-Літоўскай Рэчы Паспалітай у канцы XVIII сталецьця.

У гэтых судовых справах захавалася некалькі кніг XVI сталецьця, якія ня маюць датычэньня да Мэтрыкі Літоўскай. Напр.: кнігі Віцебскага гродскага суду і Віцебскага земскага суду за 1530-1540 г. г.; кніга Віленскага замкавага суду за 1542 год; кніга Берасьцейскага старасты за 1569-1574 г.

На трэцім месцы належыць зьмясьціць **кнігі публічных спраў**,

або, інакш кажучы, такія, якія мелі агульна-дзяржаўную вартасьць. У гэтых кнігах знаходзяцца соймавыя пастановы канфэрэнцый, усялякія соймавыя запытаньні да ўраду і адказы караля і ўраду, наказы паслом, якія пасылаліся ў чужаземныя дзяржавы, а таксама ў Польшчу; справы ваяводзтваў; загады вышэйшае ўлады па справах унутраных; тут-жа трапляюцца прывілеі гарадам і мястэчкам з рознымі вольнасьцямі і па розных інтарэсах, граматы на ўрады, прапановы наконт розных выдаткаў і павіннасьцяй вайсковых і земска-грамадзкіх.

Чацьвёрты аддзел складаюць **кнігі „перапісаў літоўскіх“**. Тут знойдзем апісаньні замкаў, староstваў, эканоміяў, зямель, паветаў, маёнткаў, усялякія межавыя кнігі, як: разьмежаваньне Беларуска - Літоўскае дзяржавы з суседнімі дзяржавамі — асабліва з XVII сталецьця. Есьць шмат апісаў татар і татарскіх маёмасьцяй.

Апроч паказанага, архіў Мэтрыкі Літоўскай захаваў і наступныя віды кніг: выпісы пастаноў князёўскае рады, інвэнтары, апісы, альфабэты і паасобныя акты, планы, мапы, радаводныя дыяграмы і інш.

Да гэтага, па розных архівах і бібліятэках у Ленінградзе і Варшаве захаваліся кнігі пасольскія і скарбовыя кнігі Літоўскае Мэтрыкі. Як яны разышліся па гэтых установах — невядома. Але яны таксама належаць да архіву Літоўскае Мэтрыкі.

### IV. Неабходнасьць вывучэньня Літоускае Мэтрыкі і выданьня яе у друку.

Літоўская Мэтрыка, як крыніца для гісторыі Беларусі, мае вялізарнае значэньне.

Якое-б пытаньне закрануць па гісторыі Беларусі соцыяльна-грамадзкага, эканамічнага і іншага зьместу ад XIV да канца XVIII сталецьця, мы напэўна знойдзем заўсёды найлепшыя веды ў Літоўскай Мэтрыцы.

Вось факт: толькі з таго недалёкага ад нас часу, як пачалося вывучэньне Літоўскае Мэтрыкі і яе распрацоўка, пачала існаваць і навуковая гісторыя беларускага народу.

Каштоўнасьць Літоўскай Мэтрыкі, як навуковае крыніцы, была падкрэсьлена рускай Архэолёгічнай камісіяй, калі яна пачала друкаваць дакуманты Літоўскае Мэтрыкі ў сваім выданьні (Акты Западной России, том I—V, 1846—1853 г.). З 1903 году матар'ялаў Мэтрыкі Літоўскай яна надрукавала пяць томаў.

Дагэтуль больш ці меньш яскрава высьветліліся дзьве школы ў беларускай гісторыяграфіі: а) школа праф. Даўнара-Запольскага і б) школа праф. Любаўскага. Першая ў падставу гістарычных дасьледваньняў кладзе права і экономіку. Другая грунтуецца на вывучэньні адміністрацыйна-палітычных зьмен.

Працы па гісторыі Беларусі, якія вышлі толькі з гэтых школ, зьяўляюцца паваротам да ўсебаковага вывучэньня Беларускае гісторыі. Дасьледваньне Літоўскае Мэтрыкі стала цяпер кіруючым мэтодам у выкладаньні мінулага жыцьця Беларусі. Шырокае скарыстаньне Літоўскае Мэтрыкі ў працы па беларускай гісторыі дае права лічыць гэтую працу грунтоўнай і каштоўнай на доўгі час. І асабліва гэта трэба адзначыць цяпер, калі гісторыя беларускага народу высьвятляецца з новага пункту погляду, для якога ў друкаваных выданьнях ня маецца многа матар'ялаў.

З другога боку такі дасьледчык беларускае гісторыі, як праф. М. Доўнар-Запольскі, мае на мэце плян аб выданьні Літоўскае Мэтрыкі ў друку. Вось што ён кажа адносна гэтага:

„У цяперашні час матар'ялы Літоўскае Мэтрыкі знаходзяцца ў Маскве. Але з часам, яна бязумоўна вернецца да нас. Помнік былой самастойнасьці беларускага народу будзе захоўвацца ў нас.

Аднак, мала яшчэ таго, каб мець Мэтрыку пры сабе, як сваю ўласнасьць. Каштоўныя помнікі не павінны ляжаць дарэмна і пакрывацца пылам у архівах". („Сав. Бел." 1925 г. № 292).

Архіўны матар'ял, які мае вялікую гістарычную і нацыянальную вартасьць, павінен адслужыць сваю службу перад працоўным народам. Ен павінен быць даступным да вывучэньня самых шырокіх колаў грамадзтва. Загэтым, працяг друкаваньня Літоўскае Мэтрыкі зьяўляецца вымаганьнем часу. На гэтае вымаганьне павінна зьвярнуць увагу беларуская савецкая ўлада. **З. Даўгяла.**

## Міністэрства Асьветы нарэшце распачало справу друкаваньня беларускіх падручнікаў.

Нашае беларускае грамадзтва памятае, якія войстрыя закіды рабіліся з боку некаторых Латвійскіх устаноў тым беларускім настаўнікам і культурна-асьветным дзеячом, якія выпісывалі для патрэб беларускае школы беларускія падручнікі з-за мяжы. У некаторых выпадках справа дахадзіла нават да арыштаў, саджаньня у турму і выкіданьня з пасад. Усе тлумачэньні беларускіх вучыцялёў і трэбаваньні, каб была аказана належная дапамога у справе друкаваньня неабходных беларускіх кніжок у Латвіі (бо толькі тады можна было-б пазбыцца патрэбы выпісываць падручнікі з Беларусі), — не прыймаліся з належнай сур'ёзнасьцю пад увагу. Толькі пасьля падзей і рэпрэсый 1930 году былі нарэшце у буджэт 1931-га году уключаны належныя сродкі на выданьне двух падручнікаў у беларускай мове. У тым-жа годзе беларускі паэта Пятро Массальскі атрымаў заказ на пераклад з латыскае мовы у беларускую „Гісторыі Латвіі" і „Географіі" для пачатковых школ. Гэтую працу ён у працягу 1931 году і праробіў, аднак друкаваньне падручнікаў з невядомых прычын затрымалася ажна на два гады.

У мінулым нумару „Беларуская Школа у Латвіі" ужо паведамлялася аб тым, што Міністэрства Асьветы прыступіла да выданьня у беларускай мове „Географіі для пачатковых школ" Эд. Томаса і Ю. Навасёлава. Кніга будзе мець 152 старонкі тэксту са 150-ю ілюстрацыямі і 2-мя каляровымі картамі Латвіі. Зараз Міністэрства Асьветы здало у друк другі беларускі падручнік: „Кароткая гісторыя Латвіі для беларускіх школ" — гр-на О. Сваннэ, таксама у перакладзе П. Массальскага. Друк абедзьвюх кніжок мае быць скончаны у канцы траўня г. г.

Маем надзею, што Міністэрства Асьветы ня спыніць на гэтым справу выданьня беларускіх падручнікаў і выдасьць яшчэ шэраг найпатрабнейшых для беларускіх школ у Латвіі беларускіх кніжок. **Букацінскі.**

## Латыска - Украінскае Таварыства у Рызе.

15-га студзеня ў Рызе адбыўся першы агульны сход ініцыятараў-закладчыкаў „Латыска - Украінскага Т-ва ў Латвіі", якое мае мэтай узаемнае вывучэньне і культурна - эканамічнае еднаньне латышоў і украінцаў. Агульны сход абраў часовы ўрад Т-ва ў складзе: Я. Крэйцбэрг (латыш), Я. Межыт (латыш), Н. Сьветлічны (украінец), Я. Озоліньш (латыш) і Л. Задарожны (украінец).

Бюро Т-ва знаходзіцца на вуліцы Волі (Brīvības ielā), 24, кв. 2. Прыймо па справах адбываецца па пятніцах ад 6-ці да 7-мі гадзін увечары.

Беларусам варта было-б аднавіць тыя захады аб стварэньні „Беларуска-Латыскага Т-ва ўзаемных досьледаў", якое намячалася яшчэ пры Яне Райнісу. Гэткае Т-ва многа магло-б даць у справе правідловае інфармацыі латыскага грамадзтва аб беларускім народзе і беларускім адраджэнчым руху. **К. Б.**

## 25 год вучыцельскае працы А. З. Радзько.

Аляксандр Захаравіч Радзько радзіўся 15-га лістападу 1876-га году ў Беластоку былое Горадзенскае губэрні. Бацька яго пахадзіў з Менскае губэрні Слуцкага павету вёскі Евангелічы і служыў у артылеры, а матка была дачкою Пачтарскага, прыймаўшага ўдзел у паўстаньні 1863 году і высланага за гэта ў Сыбір на пасяленьне.



А. З. Радзько.

Пасьля турэцкае кампаніі 1877 году сям'я Радзько пераяжджае ў Горадню, дзе бацька атрымоўвае пасаду, і аддае свайго сына ў Горадзенскую клясычную гімназію. Па скончэньні гімназіі Аляксандр Захаравіч Радзько як вольнаапрадзяляюшчыйся адбывае ў Рызе вайсковую павіннасьць у 177-м пяхотным Ізборскім палку і, пасьля выхаду ў запас прапаршчыкам, паступае ў Пецярбургскі унівэрсытэт на фізыка-матэматычны факультэт, курс якога канчае ў 1904 годзе з дыплёмам І-ае ступені і адразу-ж яго, у сувязі з Руска-Японскай вайной, залічаюць у армію. Пасьля дэмобілізацыі арміі Алясандр Захаравіч у працягу некалькіх гадоў працуе вучыцелем матэматыкі і фізыкі ў жаночай гімназіі Нікіцінай пры станцы Лігава, пазьней у Х-й Пецярбургскай гімназіі, а пасьля ў Валкскай рэальнай школе. У часе агульнае мабілізацыі 1914 году Аляксандра Захаравіча залічаюць у 343-ю Навагародзкую дружыну, дзе яго прызначаюць ротным камандзерам з пераймена-ваньнем у заўрад-капітаны.

Рэвалюцыя 1917 году перакідвае Аляксандра Захаравіча ў Каўказкую армію, пасьля расфарміраваньня якое ў 1918 годзе ён пераяжджае да сям'і ў Тамбоў, дзе паступае вучыцелем матэматыкі ў Дзяржаўную жаночую гімназію. У 1921 годзе вяртаецца ў Рыгу, дзе адразу - ж атрымоўвае лекцыі ў жаночай гімназіі Палуэктавай, вячэрняй гімназіі Блюма і ў 1923 годзе прыймаецца вучыцелем у толькі-што адчыненую І-ю беларускую пачатковую школу і лектарам методыкі матэматыкі на беларускія вучыцельскія курсы, а з 1929 году і дырэктарам Рыскае вячэрняе беларускае гімназіі. У трох апошніх установах Аляксандр Захаравіч працуе і да гэтага часу, зьяўляючыся ў той-жа час сябром т-ваў „Беларуская Хата“ і „Рунь“, таксама сябром Цэнтральнага Праўленьня Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі.

Адзначаючы 25-цігодзьдзе настаўніцкае працы Аляксандра Захаравіча, ня можам не падкрэсьліць яго асабліва вялікіх заслуг

у справе арганізацыі Рыскае беларускае гімназіі. Гэтая гімназія ўзмацавалася і ў бягучым годзе робіць першы выпуск матурыстаў— толькі дзякуючы штодзённай няўпыннай працы яе арганізатара і дырэктара Аляксандра Захаравіча. Калегі юбіляра ведаюць яго, як сталага, няўпыннага працаўніка, не прапусьціўшага (ня гледзячы на свае гады) ні аднаго вучэбнага дня.

Шчыра жадаем юбіляру пасьпеху ў яго жыцьці. Бадзёрасьць паважанага Аляксандра Захаравіча дае нам права быць пэўнымі ў тым, што ён яшчэ доўгія годы зможа прыкладаць свае сілы да настаўніцкае і наагул культурнае працы.

Доўгіх год і здароўя! **Пятро Массальскі.**

## 30 год вучыцельскае працы С. П. Сахарава.

Сяргей Пятровіч Сахараў радзіўся 29 (16) верасьня 1880 году ў м. Полацку ў сямейцы дзячка Полацкага Кадэцкага Корпусу. Праз год пасьля нарадзін сына, начальства перавяло дзячка ў вёску Банюнь, за 12 вёрст ад Полацку. Тутака ў маленькай хатцы старажоўцы расьце і гадуецца да 8 год наш сёнешні юбіляр. Цяжкое жыцьцё вясковага дзячка, але бацькі любяць свайго адзінага сына, і малы хлопчык не заўважае яшчэ ўсіх шыпоў жыцьця. Сьмерць бацькі выкінула адразу ўдаву з сынам з жыцьцёвае каляіны. Гады з тры жыве яна ў радні, а потым перабіраецца ў Полацак, дзе цяжкой працай зарабляе сабе і сыну на кавалак хлеба.


С. П. Сахараў.

Вучыцца пачаў Сяргей Пятровіч у Тураўлянскай пачатковай школе, а ў жніўню 1891 году паступіў у Полацкае Духоўнае вучылішча, дзе як сірата быў прыняты на поўнае ўтрыманьне. У 1895 годзе ён скончыў духоўнае вучылішча і быў прыняты на далейшае вучэньне ў Віцебскую Духоўную Сэмінарыю. Тут у сэмінарыі ён трапіў у спрыяючую абстаноўку, а таксама навучыўся сьвядома кахаць сваю Бацькаўшчыну - Беларусь, бо ў Сэмінарыі выкладаў у той час вядомы Беларускі этнограф - археолёг Д. І. Даўгяла, які шмат працаваў над беларускай старасьведчынай і заклаў у Віцебску краёвы музэй, а ў вучнях выхоўваў каханьне да беларушчыны. „Тарас на Парнасе“, „Панскае Ігрышча“ і дзе-якія іншыя творы хадзілі ў той час па-руках у сэмінарыстых, перапісваліся і вывучаліся напамяць. Ня малыя ўплывы рабілі на вучняў і творы беларускага пісьменьніка А. Р. Пшчолкі, якія друкаваліся ў газэце „Витебские Губернские Ведомости“.

Сэмінарыю Сяргей Пятровіч скончыў у 1901 годзе, і з 16 жніўня таго-ж году ўжо быў прызначаны вучыцелем у Пасінскую школу ў Люцыншчыне, дзе прапрацаваў толькі адзін год, а затым быў пераведзены ў Люцынскае гарадзкое 6-ціклясовае вучылішча, дзе адпрацаваў 4 гады. Тутака ён і ажаніўся.

У студзеню месяцы 1907 году Сяргей Пятровіч паступіў на Юрыдычны Факультэт Юр'еўскага Унівэрсытэту, які скончыў у 1911 годзе. Студэнты-віцебчукі трымаліся ў Юр'яве сваім асобным гуртком, часта зьбіраліся і гутарылі, а па сканчэньні унівэрсытэту, імкнуліся да працы на Бацькаўшчыне. Прыехаўшы ў 1911 годзе ў Віцебск, Сяргей Пятровіч атрымаў тутака пасаду вучыцеля прававеданьня ў трох гімназіях і Віцебскім Вучыцельскім Інстытуце, адначасна працуючы ў Казённай Палаце і сакратаром у Віцебскай Вучонай Архіўнай Камісіі, з ініцыятывы якой у Віцебску ў 1912 годзе арганізаваны быў Аддзел Маскоўскага Археолёгічнага Інстытуту.

З 1-га ліпеня 1913 году Сяргей Пятровіч прызначаецца інспэктарам народных школ 3-га раёна ў Юр'еўскім павеце, дзе працуе 4 гады, а з траўня месяца 1917 году пераводзіцца інспэктарам народных школ 2-га раёну ў Піншчыну. Тутака ён, аднак, працуе нядоўга і ў лістападзе таго-ж году пераходзе на пасаду дырэктара-арганізатара Люцынскае мястовае гімназіі, якой кірує да канца 1921 году.

Улетку 1921 году Сяргей Пятровіч актыўна ўваходзе ў беларускі культурна-асьветны рух у Латвіі і зьяўляецца—разам з гр.гр. М. Івановым, Р. Жданко, А. Чульц, М. Стэймаковым і Трафімчыкам, — арганізатарам Люцынскага Аддзелу беларускага-культурна-асьветнага Т-ва „Бацькаўшчына“. Увосені 1921 году ён прызначаецца на пасаду кіраўніка Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы, якую займае да канца 1924 году.

З пачатку 1925 году і да канца 1932 году ён кірує Дзьвінскай Беларускай гімназіяй і прыймае чынны ўдзел у беларускай грамадзкай працы, як сябра і член праўленьня некалькіх беларускіх арганізацый, як супрацаўнік беларускіх часопісаў, як арганізатар першае беларускае палітычнае партыі ў Латвіі („Беларуская дэмакратычная партыя“) і як беларускі гласны ў Дзьвінскай мяст. думе.

Нечаканы ўход С. П. Сахарава ў адстаўку не адбіўся на яго энэргіі і настроях. Ен адчувае ў сябе вялікі запас маладой жыцьцёздольнасьці і моцы, і мы спадзяёмся, што гэты запас сваей энэргіі і сваей веды ён накіруе на далейшы ўздойм беларускае нацыянальна-адраджэнчае сьвядомасьці і асьветы ў Латвіі.

Шчыра жадаемо юбіляру далейшае моцы, энэргіі і пасьпяховае грамадзкае працы! **К. Езавітаў.**

### Юбілейнае сьвяткаваньне 25 сакавіка у Рызе.

25 сакавіка у зале Рыскае беларускае гімназіі, з поваду 15 угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, адбыўся урачысты акт, у якім узялі удзел: Беларускае Навукова-Краязнаўчае Т-ва, Т-ва Беларускае Моладзі, Т-ва вучыцялёў і агулам рыскае грамадзтва. Акт адчыніў старшыня Т-ва Моладзі гр. К. Мяжэцкі уступным словам, пасьля якога старшыня Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва гр. К. Езавітаў прачытаў вычэрпываючы і багаты у гістарычныя дэталі даклад аб акце 25 сакавіка 1918 году. Дакладчык, ён-жа і удзельнік гэтага акту, усебакова абрысаваў і прааналізаваў гістарычны прабег падгатаваўчай працы да дня абвешчаньня і урэшце самы акт абвешчаньня Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Рэфэрэнт намаляваў прысутным абраз поўны драматызму з гэтай блізкай нам мінуўшчыны, адзначаючы важнасьць і значаньне гэтага гістарычнага факту, як зваротнага пункту ў гісторыі адраджэньня беларускага народу, выявіўшага нарэшце сваю волю на самастойнае і незалежнае існаваньне, нароўні з іншымі народамі. Пасьля дакладу, хор Рыскай беларускай гімназіі, пад кіраўніцтвам гр. Грыўскага, выканаў беларускі нацыянальны і латвійскі дзяржаўны гімны.

**Яз. Клагіш.**

## Беларусы у Амэрыцы.

Цяжкі крызіс, што наваліўся зара' на амэрыканскую прамысловасьць, надзвычайна моцна адбіўся на стане беларускае працоўнае эміграцыі у Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах. Зара' усе мы — безпрацоўныя. Заробкаў ніякіх нідзе няма. Так цяжка, як не было ніколі. Хто што меў, дык неяк цягнуў дагэтуль, а зара' пражыліся усе зусім дашчэнту. Людзі ужо з голаду паміраюць на вуліцах.

Чакалі дня выбараў, і ужо павыбіралі усюль дэмакратаў на мейсца рэспубліканцаў. Але бяда усё роўна не зьмяншаецца, а яшчэ больш павялічваецца.

Нашы беларускія справы і арганізацыі тутака зара' у вялікім заняпадзе. З галадухі ды безработніцтва мы зусім зьнямогшыя. Аднак справы ня кідаемо. Прыймалі даволі чынны удзел у выбарах, бо пераважная большасьць нашых беларусаў ужо мае амэрыканскае грамадзянства і на нашыя галасы ёсьць ахвотнікі (ніхто з нашых, аднак, у часе гэтых выбараў сваей кандыдатуры яшчэ не выстаўляў!), а зара' робімо усе высілкі, каб ажывіць працу нашых арганізацый. З нашых арганізацый найбольш моцныя дзьве: 1) „Беларускі Нацыянальны Хаўрус у Злучаных Штатах", які аб'яднывае беларусаў, што яшчэ не дасталі амэрыканскага грамадзянства, і „Хаўрус Беларуска-Амэрыканскіх грамадзян" які аб'яднывае тых беларусаў, што ужо маюць амэрыканскае падданства.

11 сьнежня 1932 году у Чыкаго адбыўся галавы сход „Хаўруса Беларуска-Амэрыканскіх грамадзян". Па заслуханьні дакладаў, адбыліся перавыбары Прэзыдыума на 1933 год. Старшынёй Хаўруса Беларуска-Амэрыканскіх грамадзян абраны гр. Ігнат Лабач, скарбнікам — Пётра Яцкоўскі, а сакратаром — Ян Івінскі. Бюро Хаўруса знаходзіцца у Чыкаго, адрас ягоны гэткі: Whiterussian-Amerikan Citizens Organization, 2623 Augusta Blrd, Chicago, Illinojs.

Ухвалена прыступіць да выданьня бюлетэня аб жыцьці беларусаў у Амэрыцы па ангельскай мове, а таксама падтрымаць выданьне газэты Я. Варонкі „Беларуская Трыбуна", якая выходзе у Чыкаго, але да гэтага часу выходзіла дужа нерэгулярна, бо выдавалася толькі за уласныя сродкі самаго гр. Язэпа Варонкі.

Латвійскіх беларусаў, усіх нашых зямлякоў з Заходняй Беларусі і з Радавай Беларусі, а таксама і паважаную Рэдакцыю Вашу вітаемо з Новым Годам! Хай ён будзе лепшым для нашага многапакутнага народу!

Дужа Вам уздзячны за надсылку Вашага штомесячвіка „Беларуская Школа у Латвіі", і просімо, каб іншыя беларускія газэты і часопісы таксама надсылалі-б нам свае выданьні. Не забывайце аб нас! З грамадзкім прывітаньнем!

**Ігнат Чыкагавец.**

**Ад Рэдакцыі.** Зьмяшчаючы дужа цікавы ліст гр. Ігната Чыкагаўца, выказваем сваё спачуваньне амэрыканскім беларусам і ад усяго сэрца жадаемо, каб катастрафічнае становішча іх як мага хутчэй палепшылася. Радзімо усім беларускім эмігрантам у Амэрыцы як мага цясьней гуртавацца у свае працоўныя арганізацыі і завязываць самы цесны кантакт з працоўнымі арганізацыямі амэрыканскімі. Толькі у злучнасьці гэтай і у супольнай працы над заваяваньнем лепшае будучыні для усіх працоўных — бачымо мы выхад з сучаснага нязноснага стану.

І яшчэ адну раду хочацца даць нашым заакіянскім братом — як ні цяжка зара', а усё-ж-ткі трэба выкарыстаць гэты час для далейшае і большае беларускае культурна-асьветнае працы. Трэба закладаць свае беларускія школы, хоры, тэатр і выдавецтвы у Злучаных Штатах, бо дагэтуль яшчэ амэрыканскіх беларусаў калечыць чорнасоценная расейская і польская школа ды „выховывае" расейская і польская буржуазная прэса.

**Рэдакцыя.**

**Андрэй Упіт.**

## ФРАКЕЕЦ КІЛОН.

(Канец).

Ці ад іскраў вогнішча, ці знарок падпалены гарэў ніз аблітага ліпучай смалой крыжа. Цёмна-чырвоныя зьмеі полымя, перакручваючыся з чорным дымам, прагна лізаліся ўгару па зялёнаму ствалу кедра. Ног прыцьвікаванага ўжо ня было відаць па калена, момантамі цёмна-чырвонае полымя ахоплівала і грудзі, але хвілінамі, калі вецер адкідаў яго ўбок, відаць было, як рукі торгаліся ў перацягнутых мускулах і галава кідалася з боку ўбок, як у сьлі-

мака, прытаптанага нацьвікаванай сандаліяй. Ен больш ня выў, ён рыкаў, як у агоніі, і яго рыканьне жудасна перамешвалася з рогатам п'яных легіянэраў.

На другім баку ўзгорку пачуліся набліжаючыяся галасы. У прыпадку сполаху абодвы фракійцы кінуліся бегчы, забыўшыся аб спробе вызваліць яшчэ дзе-каго са сваіх таварышоў па няшчасьцю.

Нахіляючыся, па магчыасьці ніжэй, немаль што прыпоўзкам, хаваючыся ў цемнаце, яны беглі па няглыбокай далінцы на правы бок. Гіпні ўперадзі, а за ім Кілон. Ростам з маладую лань — супроць сівога галійскага аленя, ён у бегу быў спрытнейшы за старэйшага брата. Рана на галаве і барацьба з рымлянінам стамілі Гіпніса, — Кілону здавалася, што той, абапіраючыся на меч, ідзе задужа павольным крокам. Шпаркасьць стралы, крылы сокала — былі патрэбны цяпер. Здавалася тутака-ж за сьпіной зьвіняць шчыты легіянэраў і над галавой, як у пагоні, разьвіваюцца цёмна-чырвоныя цмокі полымя.

Але патроху шум і полымя асталіся далёка за сьпіной. Нават у цемнаце можна было заўважыць, як звузілася далінка. Тут была ўжо вузкая цясьніна, з зусім стромкімі бакамі. У часе бега плечы ўцекачоў час-часам зачэплівала войстрая скала або вісячая глыба. Яны пашлі павальней, з асьцярогай прыслухоўваючыся і дасьледваючы цемру.

Выцягнутымі рукамі Кілон даткнуўся сьпіны брата. Гіпні раптоўна спыніўся і глядзеў угару. Цясьніна скончылася, крутая сьцежка ад яе падымалася па горнаму схілу. Але пры канцы выгінаўшайся сьцежкі, высока над галовамі ўцекачоў, гарэла вогнішча, час-часам у паласе сьвятла паблісківалі лязы мячоў або канты бронзавых шаломаў.

Уцекачы кінуліся назад. Гэта мясцовасьць ня была незнаёмай Гіпнію, але раптоўна асьветленая вогнішчамі цемна сьляпіла вочы, сьмяртэльная стомленасьць і страх пазбавілі здольнасьці разважаць. Ен бег наўгад, зусім ня думаючы аб тым, што такім чынам прыбяжыць на тое-ж самае месца, дзе ўжо напэўна знойдзены забіты легіянэр і пачалася пагоня за уцёкшымі нявольнікамі. Вось яны трапілі ў нейкую іншую, раней незаўважаную шчыліну. Як і першая гэта скончылася такой жа крутой сьцежкай, падняцца па якой у іх ня было сілы. Таксама над ёй палала вогнішча і каля яго цямнелі абрысы вайскоўцаў.

Момант яны стаялі схіліўшыся і глядзелі ўгару. Полымя шуганула вышэй і асьвятліла іх твары з зусім круглымі вытарашчанымі вачыма. Яны цяжка дыхалі, як стомленыя загнаныя ў закутак і зачыненыя лясныя зьвяры.

Відавочна, усе шляхі адсюль закрыты. Абодвы ўцекачы зразумелі, што ратунку ім няма. Павярнуліся і з апушчанымі галовамі пацягнуліся адзін за адным. Ня было ужо ніякага сэнсу бегчы.

Гіпні спыніўся і пачаў прыслухоўвацца. Прыслухоўваўся і Кілон. Угары за цясьнінай воддаль чутна былі крокі, перагукваньні, лязганьне зброі. Зусім ясна, што набліжаюцца хутка. Праз край цясьніны пабляскваў чырвоным, ня інакш гэта былі ліхтары даганяўшых.

Упершыню за ўвесь час уцёкаў уцекачы паглядзелі адзін на аднаго. Доўга і глыбока, нібы спрабуючы адгадаць думкі адзін ад-

нага. Але няма чаго было гадаць, абодва ведалі, што выхаду ім няма. І перад вачыма абодвых пачаў палымець крыж з прыцьвікаваным чалавекам, які кідаў галаву, як сьлімак, прыдушаны да зямлі нацьвікаванай сандаліяй.

Гіпні прытуліўся да сьцяны скалы і не спушчаў вачэй з края цясьніны. Кілон бачыў яго аблічча, бледнажоўтае, нібы скала, да якой была прыхілена яго параненая патыліца. Разьюшаны натоўп даганяўшых наблізкаўся. Жменя іскр з абгарэлае паходні ўзнялася ўгару з-за краю цясьніны.

Кілон стаяў тварам у той бок, скуль ішла сьмерць. Ён уздрыгануўся, як уджалены, і пасунуўся назад да другога краю цясьніны. Вочы Гіпнія глядзелі на яго з непарушанай страшнай пастановай, гэта ён зразумеў так выразна, як бы той яму галасна сказаў. Яго рот адкрыўся, каб крыкнуць, адмовіцца і яшчэ выратаваць сваё жыцьцё.

Гіпні ўрачыста падняў да яго руку. Гэта рука ў асьвятленьні блізкіх факелаў здавалася загартаванай. Але яна ня дрыжэла, і голас Гіпнія быў халаднаваты і цьвёрды, як пастанова самаго лёсу.

„Іншага выхаду ў нас няма. Або ты думаеш яшчэ аб чым?“

Кілон апусьціў галаву. Што ён мог думаць.

„Былі бы ў нас у абодвух мячы: мы кінуліся-б уперад, у бойку. Яны былі-б змушаны нас забіць, бо ахвяраваць кождаму з нас па пяць чалавек, пакуль мы ня стомімся, гэтыя падлюгі не пажадаюць. Цяпер-жа адзін з нас павінен папасьціся ім у рукі жыўцом. Я не хачу быць гэтым. Мо' ты маеш жаданьне гарэць факелам у якога-колечы слупа і асьвятляць шлях, калі па ім паедзе ў Рым Марк Ліцыні Крас?“

Кілон прысеў, нібыта ўхіляючыся ад бязлітасных рук, якія цягнуць яго на крыж.

„Не, не, не!“

Гіпні толькі матануў галавой. Потым ён працягнуў сьціснуты кулак, з якога тырчэлі дзьве траўкі. І гэта зразумеў Кілон. Такі быў звычай нявольнікаў у гэтай вайне: каму дастанецца даўжэйшая, той павінен забіць другога, а потым забіць сябе. Кілон працягнуў руку так, нібыта да яе прывешаны быў кавалак важкае скалы. У гэты момант у яго было толькі адно жаданьне, ахапіўшае ўсю яго істоту: хоць бы толькі гэтым быў ня ён, а яго брат!

Гіпні нахіліўся бліжэй і дакрануўся да яго пляча.

„Хутчэй! Мне здаецца, я іх ужо бачу“.

Сапраўды, шалёны рык гучэў ужо над самай галавой Кілона. Напэўна яны спяшаліся, каб хто-колечы не забіў уцекачоў. Толькі сьмерць—гэта задужа лёгкая для іх кара.

Заплюшчыўшы вочы, Кілон памацаў кулак брата. Не... І ўсё-ж-ткі гэта ён.

Ахапіўшая гладкую цавейку мяча, рука яго здавалася сьціскаецца ў корчах, як тады, у ляжачага на зямлі, ад моцна перацягнутых рамянёў.

Гіпні падганяў яго, сьпяшаючыся, задыхаючыся.

„Хутчэй! Ты не пасьпееш сам... Я іх ужо бачу. Тут...“

Але Кілон ня мог глядзець на тое месца, дзе была прыціснута далонь Гіпнія. Ён шукаў вочы брата — разьвітацца, ці яшчэ

за чым, ён сам ня ведаў. Але падвекі Гіпнія былі цяжка спушчаны на вочы. Губы сьціснуты, быццам нарыхтаваны затрымаць або заглушыць найслабейшы стогн, які мог вырвацца ад болю ды нянавісьці.

Здаецца, ён сам кінуўся на канэц меча, паднятага братам. Калі Кілон зноў павярнуў твар, той павольна соўгаўся па скале, закрыўшы твар далонямі, каб схаваць вочы ад чырвоных успалохаў факелаў, што ліліся ўжо ўніз проста на іх абодвух.

Дзікі рык радасьці і злосьці дваццаці глотак аглушыў ззаду Кілона. Тупат ног набліжаўся шпарка. Дробныя каменчыкі каціліся са звонам, зьвінелі шчыты, лязы бягучых мячоў напеўна скавыталі, расьсякаючы паветра. Супроць зыркіх агнёў цень Кілона, чорны і аграмадны, цягнуўся ўгару па сьцяне скалы ды зьнікаў у цемры за абрывам.

Цень згінаўся, нібыта яго паліла полымя гэтых чырвоных факелаў. Кілону прышло ў галаву, што ён прыцьвікаваны к сьцяне скалы і торгаецца як раз так, як той там на дарозе ў Капуас. Свой лёс ён уцяміў сабе ясна. Ніякага ратунку або літасьці ён не чакаў. І ўсё-ж-ткі ня выкарыстаў тых дзьвюх хвілін, у якія яго жыцьцё належала яму самому.

Ен ня быў трусом. У нядоўгія дні вайны ён прымаў удзел у шматлікіх бойках. Прывык біцца вока-на-вока, кожды момант адчуваючы канец мяча ворага супроць сваіх грудзей, або тапор над галавою. Адважнай рукой і з крыкам пераможцы ён многа разоў апускаў свой меч у цела ворага. З асалодай дзікага зьвера ён забіваў рымскіх палонных, старых і дзяцей арыстакратычных сямей нават простых рабочых. Нават паднятая супроць сэрца брата, яго рука перад гэтым нядужа дрыжэла. Але цяпер яна бяз руху трымала кароткі меч, па войстраму лязу якога павольна цякла на зямлю кроў Гіпнія.

Крывулінамі маланкі, з асьляпляючай яскравасьцю ў яго мазгу плялося тое, што ў гэтыя дзьве беззваротныя хвіліны пратрымала яго ў асьляпленьні. Далёкая і немаль што чужая Фракія, з яе дзікімі гарамі, у глыбока-дымным кругавідзе. Жыцьцё пастуха, калі начамі, часта адна дзяўчына, зграбная і спрытная як сэрна, абвівала гарачыя рукі каля яго шыі і ўсё цела грэла сваёй пяшчотай. Яго хвалёныя сьветлыя, як у жанчыны, мяккія валасы, яго непражытая, невыведаная маладосьць, яго жыцьцё, — яго жыцьцё!

Нешта голасна і загадна крычала ў ім. Гэта было дужэй, чым ясная разуменьне тых жахаў, што яго чакаюць праз хвіліну. Гэты момант быў даражэй, чым даўгія жудасныя мукі ў новым палоне ў п'яных разьюшаных зьвяроў. Руку, якая сотні разоў забівала, нібы гуляючы, ён ня мог падняць супроць уласнага жыцьця.

Ен бясьсільна сьлізнуўся на калені, глыбока ўцягнуў паветра, нібы ўбіраючы ў сябе ўвесь сьвет, разам з напяваючым ветрам, плакаў, ахапіўшы абедзьвюмя рукамі цавейку рымскага мяча. І калі яму прышла ў галаву думка ўскочыць і абмяняць сваё жыцьцё на два-тры жыцьця ворагаў, было ўжо позна. Дваццаць прагных рук разам хапаліся за яго валасы, за шыю, за яго рукі ды ногі.

**Андрэй Упіт.**



**Да пяцігодзьдзя працы Дзьвінскага Беларускага Народнага Тэатру.** Артысты, прыймаўшыя ўдзел у пастаноўцы п'есы Ул. Галубка „Апошняе спатканьне“, прайшоўшай з надзвычайным посьпехам 30 траўня 1930 году на сцэне Дзьвінскага чыгунковага тэатру. Стаяць зьлева ўправа: Ул. Ціхаміраў, А. Райко, А. Абалевіч, Я. Зэйгліш і М. Макаруха. Сядзяць: У. Фёдараў, Т. Гладкова, М. Райко, А. Барткевіч, гр-ка Мельнікава і рэжысор гр. Мельнікаў.

## Пастаноўка п'есы „Апошняе Спатканьне“ у Рызе.

Наш Рыскі Беларускі Народны Тэатр у першыя два-тры гады сваей працы, калі ён трымаўся цеснага кантакту з Беларускімі Дзяржаўнымі двухгадовымі вучыцельскімі курсамі і прыцягіваў курсантаў да студыйнае працы у Тэатры, меў магчымасьць ставіць п'есы з вялікім лікам удзельнікаў, а разам з тым падрыхтаваў значную лічбу беларускіх маладых настаўнікаў да працы у якасьці вясковых рэжысораў. Зара' гэты кантакт неяк згубіўся, і ад гэтага страцілі як курсы, на якіх новыя курсанты ня будуць мець тэатральнае падрыхтоўкі, гэтак патрэбнай для вучыцялёў, так і сам Рыскі Беларускі Народны Тэатр, бо ён ня мае зара' сталых кадраў для вялікіх пастановак. Між тым сілы для папаўненьня сталага ядра артыстаў у Рызе ёсьць, і сілы неблагія. Трэба толькі іх выкарыстаць.

11 сакавіка у памешканьні Літоўскае гімназіі на Тэрбатоўскай вул. 15/17 адбылася вечарына - спэктакль Рыскай беларускай вячэрняй школы для дарослых. Ставілася п'еса Ул. Галубка „Апошняе Спатканьне“, якая была зусім задавальняюча адыграна вучнямі школы пад рэжысурай вучыцеля гэтае школы гр. Міколы Дзямідава. Дэкарацыі для п'есы вельмі удала напісаў малады беларускі мастак, студэнт Акадэміі Мастацтва Пятро Міранович, які працуе у Рыскіх беларускіх школах як выкладчык маляваньня. Пасьля спэктаклю адбыліся танцы.

Калі глядзіш на сьмелыя пастаноўкі нашае вячэрняе школы у Рызе, якая ужо паставіла у гэтым годзе тры п'есы з вялікім лікам удзельнікаў, мімаволі думаеш аб тым, што наш Рыскі Беларускі Народны Тэатр павінен неяк так упланаваць сваю працу, каб шчыльна зьвязаць яе з тымі аматарскімі сіламі, якія мы у значным ліку маемо у двух нашых вячэрніх школах для дарослых. Калі прыцягнуць гэтыя сілы да студыйнае працы, дык з ліку чырвонадзьвінскіх беларускіх рабочых наш Народны Тэатр можа атрымаць дужа моцнае папаўненьне, якое тым ящчэ цікавае, што яно астаецца у Рызе на сталую працу, а не разкідаецца па усей Латгаліі, як гэта зазвычай было з студыйцамі-курсантамі.

Тэатрал.

## Беларускія вечарыны-спэктаклі ў Круманаўскай школе.

У Круманаўскай беларускай школе, Пустынскай гміны, у гэтым годзе былі зладжаны на карысьць незаможных вучняў школы дзьве вечарыны. Першая вечарына адбылася 15 студзеня. Была адыграна камэдыя: „Зьбянтэжаны Саўка“; пасьля камэдыі былі дэклямацыя і скокі. Камэдыю адыгралі артысты Пустынскага Аддзелу Т-ва Беларускае Моладзі. Публікі была паўнюсенькая кляса,

болей за 150 асоб. Увесь прыбытак ад гэтай вечарыны пайшоў на школьную ёлку.

Другая вечарына адбылася 12-га лютага пры дапамозе мяйсцовых артыстаў з вёскі Іоніны: Ігнася Ігнатовіча, Антопа Ігнатовіча, Балеслава Ігнатовіча, Люкады Ігнатовіч, Зосі Ігнатовіч, Доната Іоніна, Юлюся Іоніна і Ляпарда Лоціка. Усе яны йгралі надта добра, бо усе свае ролі падабралі па-сабе. Адыграна было тры камэдыі: „Боты“, „Паслапец“ і „Стараста“. Пасьля камэдыяў была дэклямацыя і куплеты. З куплетаў Іонінскіх артыстаў трэба асабліва адзначыць куплет — „Таўку кісель“, дзе цяялі розныя беларускія прыпеўкі. Вечарына прайшла надта вясёла і публікі было болей за 120 асоб. Увесь прыбытак ад вечарыны пайшоў на карысьць незаможных вучняў школы. Пажадана, каб Іонінскія артысты і надалей так працавалі на карысьць свайго народу. **Юхнявецкі.**

## Беларускі спэктакль у Індраўскай Дзяржаўнай аснаўной школе.

26 сакавіка для беларусаў Індры і яе ваколіц было вялікае сьвята: у гэты дзень у Дзяржаўнай пачатковай школе былі наладжаны, у зьвязку з тыднем прасьветы, лекцыя і спэктакль. Спачатку пастаўлена была латыская п'еса, а потым беларуская — „Птушка Шчасьця“, п'еса у 3-х актах Ф. Аляхновіча, якую дужа добра адыгралі артысты Дзьвінскага Беларускага Народнага Тэатру пад рэжысурай вуч. К. Аляксандровіча. Пасьля спэктаклю выступаў хор Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай гімназіі, пад кіраўніцтвам гр. Катоўскага. Хор і беларуская п'еса зрабілі асабліва моцнае ўражаньне на усіх прысутных, большасьць якіх была беларусаў. Гэта было запраўднае для нас сьвята. Прысутна было больш 1000 чалавек. Хоць школа і лічыцца латыскай, але па зале увесь час гудзела мова беларуская.

Для нас, беларусаў, незразумела, чаму гэта у Індраўскай Дзяржаўнай пачатковай школе дагэтуль усё яшчэ ня выкладаецца вучням - беларусам беларуская мова? Бацькі-беларусы даўно ужо падалі заяву Міністру Асьветы аб стварэньні беларускага камплекту пры Індраўскай школе, а адказу няма! **Вясковы Беларус.**

**Заўвага Рэдакцыі.** Па весткам, якія мы маемо, просьба бацькоў аб беларускім камплекце усё яшчэ не перададзена Міністру Асьветы, бо супроць гэтага выказаліся два - тры уплывовых грамадзяніна, напалоханыя несумленнымі людзьмі. Мы спадзяёмся, што хаваць просьбу бацькоў ад Міністра гэтыя грамадзяне доўга ня будуць і нарэшце перададуць яе куды трэба. Больш падрабязна аб гэтай справе падамо у наступным нумары. **Рэдакцыя.**

# З жыцьця Беларускае Моладзі у Латвіі.

**Кузьмінскі Аддзел Т-ва Беларускае Моладзі** значна ажывіў сваю працу пасьля Каляд. Падчас Калядных канікулаў, сябра Цэнтральнага Праўленьня, намесьнік старшыні П. Мірановіч, адведаў гэты Аддзел, дзе зрабіў даклад аб дзейнасьці Цэнтральнага Праўленьня. Гэта візыт разварушыла сяброў Кузьмінскага Аддзелу і у студзеню ужо наладзілі першую спэктакль-вечарыну з п'есай „Перамена“. У лютым была наладжана і другая пастаноўка п'есы К. Каганца „Модны Шляхцюк“. Абедзьве вечарыны прайшлі з посьпехам, уносячы значнае ажыўленьне ня толькі сярод сяброў Т-ва, але і сярод жыхарства гэтага вокругу.

**Пустынскі Аддзел Т-ва Беларускае Моладзі** 26 лютага паладзіў баль-маскарад. Маскарад на вёсцы рэдка ладзіцца і, як навіна, праграма сабрала вялікі натоўп грамады. Пастаноўка з боку ідэёвага нічога не даючая, але для разнастойнасьці гэта ня шкодзіць. За лепшыя тры маскі былі вызначаны нагароды. Першую нагароду атрымаў гр. Рацынь. Агулам баль - маскарад прайшоў з вялікім посьпехам і даў чыстага прыбытку Аддзелу 60 латаў.

**Лекцыі наладжаныя Цэнтральным Праўленьнем Т-ва у сувязі з „Тыднем Асьветы“ з 19. III. па 1. IV. 1933 году.** „Тыдзень Асьветы“ ладжаны Міністэрствам Асьветы даў магчымасьць сябрам Беларускай Моладзі і беларускім грамадзянам узяць удзел у чытаньню лекцыяў на правінцыі у асяродках беларускага жыхарства. Выехалі галоўным чынам у Латгалію, у паветы Люцынскі і Дзьвінскі, у мейсцы, дзе ужо існуюць Аддзелы Беларускай Моладзі, якія і узялі на сябе абавязкі адшуканьня памешканьня для адчытаньня рэфэратаў, дастаўку лектароў і г. д., чым значна аблягчылі выезд дакладчыкаў. За час „Тыдня Асьветы“ у Аддзелах Т-ва былі прачытаны наступныя лекцыі:

Грамадзянін К. Езавітаў прачытаў 19 сакавіка лекцыю у Пустыні, у памешканьні Пустынскай аснаўной школы на тэму: „80-я угодкі Беларускага Тэатру і 50-я угодкі беларускага драматурга Ул. Галубка“.

Гр. К. Мяжэцкі — у Зілупэ 19 са-

кавіка, у памешканьні дзяржаўнай школы прачытаў лекцыю на тэму: „Разьвіцьцё беларускай і латыскай культуры“.

Гр. Я. Кудраўцаў — 19 сакавіка у вёсцы Путынаве прачытаў даклад на тэму: „Духовыя вартасьці беларускага і латыскага народаў“.

Гр. А. Рытаў—19 сакавіка у мястэчку Прыдруйску, у памешканьні Народнага дому прачытаў рэфэрат на тэму: „Асьвета і яе значаньне“.

Гр. Ул. Гусарэвіч — 25 сакавіка у вёсцы Шушках, у памешканьні аснаўной школы прачытаў даклад на тэму: „Спрыяючыя абставіны разьвіцьцю культуры“.

Гр. К. Мяжэцкі — 26 сакавіка у м. Пасіні, у памешканьні польскай аснаўной школы, прачытаў даклад на тэму: „Разьвіцьцё беларускай і латыскай культуры“.

Гр. Фр. Клагіш — 26 сакавіка у вёсцы Зарэках, у памешканьні Зарэцкай беларускай школы, прачытаў даклад на тэму: „Беларусы у Латвіі“.

Гр. Яз. Клагіш — 26 сакавіка у вёсцы Руднях, прачытаў даклад на тэму: „70-я угодкі беларускае прэсы і К. Каліноўскі“.

Трэба зазначыць, што лекцыі, даклады і рэфэраты прайшлі з добрым посьпехам і падоймам, пасьля дакладаў адбываліся яшчэ дыскусыі і гутаркі прысутных з лектарам, што сьведчыць аб зацікаўленьні і патрэбе гэткіх лекцыяў сярод нашага грамадзтва. Гэтыя лекцыі сабралі ня толькі беларускую моладзь і беларускае грамадзтва, але у значнай меры, латыскае, расейскае і польскае, што асаблівае значаньне надало лекцыям на тэмы з беларускай культуры. На некаторых лекцыях, як у Зілупэ, Пустыні і Прыдруйску, як цэнтрах больш арганізаванага беларускага грамадзтва,— прысутных было больш за дзьвесьце асоб.

**Цэнтральнае Праўленьне Т-ва Беларускае Моладзі** 21 траўня ладзіць экскурсыю у Лясны Парк. Зборка а 10 гадзіне раніцой, на Чырвонай Дзьвіне пры 2-й Рыскай аснаўной беларускай школе, на Сымонаўскай вуліцы 14-16.

**Сяброўскі Сход - Нарада** адбудзецца 28 траўня а 6-й гадзіне увечары з наступным нарадкам дзённым: 1) Даклад Цэнтральнага Праўленьня аб сучасным стане працы Т-ва і аб пляне працы на лета бягучага году. 2) Дыскусыя. 3) Бягучыя справы. Пасьля сходу адбудуцца скокі і гульні. Сябры могуць запрашаць знаёмых на скокі. Прысутнасьць сяброў на сходзе абавязковая. Сход адбудзецца у памешканьні 2-й Рыскай беларускай школы на Сымонаўскай вуліцы 14-16.

**Аб нарадах Т-ва Беларускае Моладзі на правінцыі.** Дзеля таго, што агульную Конфэрэнцыю Т-ва Моладзі няма мажлівасьці склікаць, Цэнтральнае Праўленьне пастанавіла зрабіць нарады паасобных райёнаў у Дзьвінскім і Люцынскім паветах.

**Нарада Аддзелаў Прыдруйскай и Пустынскай гміны** адбудзецца 2 ліпеня у Індры з гэткім парадкам дзённым: 1) даклад Цэнтральнага Праўленьня; 2) рэфэрат; 3) спэктакль і 4) скокі.

**Нарада Аддзелаў Люцынскага павету** адбудзецца 9 ліпеня у Пасіні з гэткім парадкам дня: 1) Даклад Цэнтральнага Праўленьня; 2) рэфэрат; 3) спэктакль і 4) скокі.

**Цэнтральнае Праўленьне прапануе мясцовым Аддзелам** улажыць камітэты з прадстаўнікоў сваіх Аддзелаў, якія павінны зараз-жа прыступіць да падрыхтоўкі спэктакляў на прызначаны час. Пажадана было-б, каб кожны Аддзел узяў чынны удзел у прадугледжаных нарадах і спэктаклях, ці у пастаноўцы п'ес, ці даць іншыя нумары, як хору, спартовыя, дэклямацыі і г. д. Падрыхтоўка з боку Цэнтральнага Праўленьня да прадугледжаных нарадаў і пастановак ужо вядзецца, але патрэбны удзел і мясцовых сіл моладзі, чаму і заклікаем Беларускую Моладзь прыступіць актыўна да гэтай працы. Адначасна Цэнтральнае Праўленьне запрашае і беларускае грамадзтва прыняць удзел у і падтрымаць ў той ці іншы спосаб гэты прадпрыемствы.

Цэнтральнае Праўленьне.




Адказны Рэдактар — **К. Езавітаў**. Выдавец — **Беларускае Выдавецтва**

Друкарня Г. Іге, Рыга, Стары Горад, Vecpilsētā, 8. Тэлефон 34212.